# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 21 (1056) ГОД XXI 23 МАЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

### УСЁ З ЛЮБОЎЮ

*Шчаслівы той,*
*Каго натхніла*
*Адно з прыгожых, ціхіх слоў.*
*Ах, што за моц*
*І што за сіла*
*У слове, што гучыць: любоў!*

*Яго, куды ні стаў,*
*Дык стане,*
*І загарыцца бляск вачэй,*
*Я не кажу ўжо пра каханне —*
*Аб ім размовы гарачэй.*

*А пра любоў,*
*З якой святое*
*З грудзей уздымецца калі,*
*Любоў да існасці людскoе,*
*Любоў да неба і зямлі.*

*Любоў штодзённая*
*Да працы,*
*Любоў, каб новае адкрыць,*
*Любоў шукаць і дамагацца*
*Ды і ўсяго, з чым добра жыць!*

*Любоў —*
*Вялікая патрэба.*
*Ва ўсім не след яе губляць.*
*Упэўнены:*
*З любоўю трэба*
*І двор падмесці і прыбраць!*

**Пятрусь Броўка**

## Сёлетні цэнтральны

У нядзелю, 2 мая бягучага года адбыўся ў Бельску традыцыйны ўжо, штогадовы агляд беларускіх драматычных калектываў. У элегантным новым доме культуры з прасторнай сцэнай і вялікай глядзельнай залай выступілі чатыры калектывы: з Бельскага беларускага ліцэя, Беластока, Арэшкава і Гарадка.

Драматычны вучнёўскі калектыў з Бельскага ліцэя, які працуе ўсяго два гады, ставіў пад кіраўніцтвам настаўніцы З. Красоўскай п'есу А. Барскага „Гарадскія госці". Выступалі: Зіна Трэска, Яўген Стэпанюк, Міхась Жураўль, Валянціна Стэпанюк, Васіль Сахарчук, Сцяпан Дудзіч, Людміла Крукоўская, Андрэй Балло, Юрка Герэс. Усе яны вучні другога і трэцяга класаў. Некаторыя з іх са шматабяцаючымі здольнасцямі. Сярод бельскіх акцёраў-аматараў былі і такія, якія ўпершыню выступалі на сцэне і, вядома, не кожнаму адразу ўдалося паспяхова справіцца са сваёй, часам даволі складанай, роляй. У ліцэістаў заўважалася замала ўнутранага заангажавання ў часе выконвання твора. Артысты вельмі хваляваліся, губілі словы, чырванелі. Ігра іх была крыху штучнай, не зусім выразна дайшла да гледачоў канфліктовая сцэна, згубілася фарса, камічныя жыццёвыя сітуацыі. Словам, над пастаноўкай трэба доўга, але і сістэматычна працаваць.



*Арэшкаўскія самадзейнікі паказалі на бельскай сцэне вечарынку з удзелам кудзельніц.*

Пры ўсім гэтым грэхам было б не прызнацца, што падабалася Зіна Бандарук у ролі маці. Прыкмецілі гэта члены журы агляду. Актрыса атрымала за паспяховае выкананне сваёй сцэнічнай ролі ўзнагароду.

Арэшкаўскія жанчыны (усіх іх выйшла на сцэну 19 асоб) паказалі беларускую вясковую вечарынку. Такіх вечарынак, пэўна, ужо не прыдзецца больш убачыць нам на вёсках. А былі яны на вёсках Гайнаўшчыны, Бельшчыны і іншых рэгіёнах. У мінулым. Кабеты выцягнулі з куфэркаў старыя саяны ды вышываны кофты, знеслі з-пад страхі закінутыя там і сям калаўроты, матавілы, узялі рэшаты з пер'ем для скубання, ручнік для вышывання. Селі наўкруг. Пралі лён або воўну. Адначасова з тым, як навіваліся ніткі на верацёны, ліліся народныя песні, якія былі вядомы кожнай кудзельніцы, пераплеценыя варожбамі, жартамі, апавяданнямі. На вечарынах былі і танцы, і пачастунак. Усё гэта каляровае, жывое і вясёлае прадставілі арэшкаўскія самадзейнікі на вялікай сцэне. Усё вельмі аўтэнтычна і так непасрэдна. І хаця гэта і не драма, і не камедыя, а спадабалася ўсім.

Аднак хачу звярнуць увагу на тое, што і пры фальклорных пастаноўках неабходны прадуманы загадзя і падрабязна сцэнарый, які б прадбачваў кожнаму ўдзельніку інсцэніроўкі канкрэтную ролю, рух, выказванне, песню і г.д. Інакш людзі разгубліваюцца на сцэне, дзеянне непатрэбна зацягваецца. Не ведаю, ці ўлічваў гэта Я. Крупа, які дапамагаў рыхтаваць гэтую абрадавую сцэнку. Бо гледачам паказалася яна задоўгай. Добра, што жанчыны гутарылі і спявалі на сваёй падчарэмхаўскай гаворцы. Якая мілая для вуха гэтая мова!

(Працяг на стар. 4)

акрэсленай ролі. А гэтыя элементы неабходны. Нават у ігры акцёра-аматара. Бо ён выступае не абы дзе, а на сцэне, перад шырокай публікай.

Члены аматарскага тэатральнага калектыву з Беластока: Зіна Бандарук, Гражына Шапель, Валянцін Пісанко і Ян Піруга выступілі на бельскай сцэне з пастаноўкай Е. Бондарава пад загалоўкам „Агледзіны". Рэжысёрам яе быў (ён і пераклаў гэты сцэнічны твор з рускай мовы) Я. Крупа. Па ўсяму відаць было, што беластоцкія самадзейнікі не зусім добра прысвоілі сабе змест

## Пакуль дачакалася спакою...

Найперш у вясеннім сонцы замільгацела серабрыстымі яскравымі водблескамі шкляная канструкцыя, а побач праз хвіліну ўбачыў я даўжэзны тунель, прыкрыты нейлонавай фальгой або чымсьці падобным празрыстым. Па-суседству стаялі тыповыя вясковыя будынкі: пастарэлая драўляная хата, хлявы і гумно. Тут, у наваколлі Кузніцы, дзе зямля не разбэшчвае гаспадароў высокай якасцю, дзе больш узгоркаў і жвіру, як сенажаці і чарназёму, падобных сялянскіх сяліб яшчэ вельмі многа... Але гэтыя сучасныя збудаванні для вырошчвання ранняй агародніны? Па дарозе з Кузніцы ў Саколку, а нават і ў Беласток можна палічыць іх на пальцах адной рукі. І гэта мяне зацікавіла.

На панадворку прывітала мяне Вольга Курыла — старэйшая ўжо жанчына.

— Пра гэтыя цяпліцы пытаеце? — адазвалася яна на польскай мове. Калі аднак папрасіў я яе, каб гаварыла „пасвойму", „па-просту", цётка Вольга адказала:

— Калі з панамі не выпадае гаварыць „па-простаму"...

Божа ж мой, колькі раз у маіх шматгадовых вандроўках даводзілася мне чуць гэтую сялянскую прагаворку, што „непрыстойна гаварыць з „панамі" „па-простаму". Як глыбока закараніліся ў нас перажыткі мінулага, яшчэ XIX-вечнага або і ранейшага ладу, калі сапраўды толькі „хамы" карысталіся сваёй, „простай" мовай, а тыя, хто лічыўся „панам", гаварылі выключна або „па-польску", або „па-руску", ды і гэтыя мовы лічылі яны надта ж грубымі, нецывілізаванымі і ў сваіх кампаніях, каб падкрэсліць сваю адукаванасць, шваргаталі найчасцей па-французску. Праўда, знаходзіліся сярод паноў разумныя людзі, такія, як Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Эліза Ажэшка і яшчэ іншыя, якія ведалі, разумелі і высока цанілі гэтую мову „простанароддзя". *„Да і я ж вам памагу песенькі спеваці"*, — звяртаўся Ян Чачот „Да мілых мужычкоў". — *Да-й я ж міжы вамі ўзрос пры бацьку і маці"*.

— А нам тут усё роўна, — рашуча заяўляе яна. — Я сваіх дзяцей выгадавала так, што яны аднолькава добра гавораць і па-нашаму і па-польску. Бо трэба вам ведаць, — паясняе цётка Вольга, — што я адна гадавала сваіх дзяцей, бо майго мужа яшчэ ў 1945 годзе забілі бандзюгі за тое, што пры савецкай уладзе быў ён актывістам, працаваў сакратаром сельсавета. Во, цяпер у маі будзе 31-ая гадавіна, як я асталася ўдавою, а мае дзеці — сіратамі. Трое іх у мяне. А ён жа нікога тут не пакрыўдзіў. Быў крыху адукаваны, умеў чытаць і

(Працяг на стар. 2)




**Мы зрабілі многа ● Беларуская мова ● У светлагорскіх хімікаў ● У Варшаве на Смычковай ● Сустрэча з пісьманосцамі ● Валянціна Ласкевіч ● Рэпартаж з пачыну ● БГКТ у ліках ● Боцькаўскія донары ● Весткі з Катлоў, Гайнаўкі, Бельска, Істока, Піражкоў ● Галаваломка з узнагародамі ● Калі сніцца сена ● Песня „Касіў Ясь канюшыну".**

## Людзі БГКТ

## Фёдар Галёнка

З доктарам юрыдычных навук **Фёдарам Галёнкам** мне ўдалося сустрэцца ў міжчасе яго частых службовых паездак у Савецкі Саюз на пабудову славутага газаправода Арэнбург — заходняя граніца СССР. Гэтае гіганцкае стальное русла для газавай ракі пракладваецца, як вядома, супольнымі сіламі краін — членаў Савета эканамічнай узаемадапамогі (РВПГ). Ф. Галёнка з'яўляецца галоўным спецыялістам па справах польскага адрэзка пабудовы газаправода.

У кватэры Любы і Фёдара Галёнкаў — яна знаходзіцца ў цэнтры Варшавы, непадалёку ад гасцініцы „Форум" — пануе мілая сямейная атмасфера: дачка і сын у суседнім пакоі рыхтуюцца да заўтрашніх заняткаў у школе, мы размаўляем аб Беласточчыне. Люба Галёнка — выхаванка Бельскага беларускага ліцэя, цяпер магістр хіміі і працаўнік лабараторыі адной з варшаўскіх бальніц — успамінае родную сваю вёску Кашалі, што каля Орлі, незабыўныя гады вучобы ў ліцэі, потым заняткі ў інстытуце ў Маскве.

Дзяцінства ж Фёдара Галёнкі прайшло ў сяле Пасечнікі каля Белавежскай пушчы, на вучобе ў суседнім Арэшкаве, потым у савецкай сярэдняй школе ў Гайнаўцы. А юнацтва ў яго адабралі фашысты, загнаўшы на паднявольную працу ва ўсходнюю Прусію.

Пасля вызвалення Ф. Галёнка спачатку жыве і працуе ў родных Пасечніках, а потым падаецца ў Варшаву. Там, жывучы дзе папала і як папала, ён у паскораным тэмпе заканч-

(Працяг на стар. 4)



Наша галерэя



В. Паўловец, Барысаў. „Партызаны“. Разьба на таніраваным дошцы.

НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

# ПАДПОЛЬНЫ І ПАРТЫЗАНСКІ РУХ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ 1941-44 г.г.

У ціхі і пагодны досвітак 22 чэрвеня 1941 г. фашысцкія захопнікі, вераломна парушыўшы дагавор аб ненападзе на СССР, накіравалі адзін са сваіх галоўных удараў на Беласточчыну. Пагранічныя часці Чырвонай Арміі, асабліва па ўзбярэжжы ракі Буга ад Драгічына да Нямірава, гераічна змагаліся з ворагам, але пад націскам пераважаючых сіл праціўніка вымушаны былі адступіць на ўсход (т. III, с. 242-9 і карта с. 240-1).

Ужо з першых дзён акупацыі па ўсёй Беласточчыне пачалі ўзнікаць партызанскія групы і атрады, якія складаліся з савецкіх салдат і афіцэраў, што апынуліся на захопленай фашыстамі тэрыторыі, а таксама з мясцовых камуністаў і камсамольцаў.

У кастрычніку 1941 г. паўстаў у раёне Белавежскай пушчы партызанскі атрад імя Э. Тэльмана (т. VIII, с. 248), „партызаны атрада дыверсіямі ў раёне чыгуначных станцый Быцень, Гайнаўка, Чаромха зрывалі транспартныя перавозкі ворага, вялі палітычную работу сярод насельніцтва“. У сакавіку 1942 г. паўстае партызанскі атрад С. І. Казлова (т. VIII, с. 250), які некаторы час дзейнічае ў ваколіцах Кляшчэляў, Шарашова і Гайнаўкі. У гэтым жа годзе арганізуюцца партызанскія атрады Кірылы Іванавіча, які дзейнічае ў ваколіцах Гайнаўкі, і „Старшыны“, што разгортвае барацьбу ў Сямяціцкім павеце (т. VIII, с. 228), а таксама іншыя групоўкі, напрыклад, група „Афанасьева“, якая дзейнічала з ліпеня 1941 г. у былых Беластоцкім, Заблудаўскім і Крынкаўскім раёнах.

Створаны рашэннем ЦК КП(б) Беларусі і закінуты ў ліпені 1943 г. у тыл ворага (у Мінскую вобласць) Беластоцкі падпольны абласны камітэт КП(б)Б (т. VIII, с. 273) стаў цэнтрам кіраўніцтва партыйным падполлем і партызанскім рухам на Беласточчыне. „На чале групы партызанскіх атрадаў з баямі зрабіў 1000-кіламетровы рэйд па тыле ворага да месца дыслакацыі. У Беластоцкай вобласці дзейнічаў з лістапада 1943 г. да ліпеня 1944 г. Размяшчаўся ў Ліпічанскай пушчы (каля в. Галубы — на Гродзеншчыне). Сакратары: В. Е. Самуцін, Д. К. Сукачоў; члены: П. П. Капуста, С. К. Майхровіч, Т. М. Стрыжак. Друкаваны орган — газета „Белостокская правда“ (выходзіла з 7 ліпеня 1943 г. па 6 чэрвеня 1944 г., перыядычнасць 8-9 разоў на месяц, усяго 60 нумароў, тыраж 500-1000 экземпляраў, рэдактар С. К. Майхровіч)“. Абком кіраваў трыма міжраённымі падпольнымі камітэтамі КП(б)Б: Аўгустоўска-Граеўскім (сакратары: А. Д. Трацукі, І. Я. Лісаковіч), Бельска-Бранска-Лапскім (сакратар В. В. Кундовіч, газеты: „Красное знамя“, „Знамя победы“), Замброўска-Чыжоўскім (сакратар А. А. Стома, газета „Патриот Родины“) (т. VII, с. 185) і шасцю раённымі падпольнымі камітэтамі КП(б)Б, сярод іх: Беластоцкім (сакратар Я. Г. Осіпаў) і Снядоўскім (сакратар І. С. Шурман, газета „За нашу победу“). Дзейнічалі таксама падначаленыя Брэсцкаму абкому КП(б)Б райкомы: Гайнаўскі (сакратар А. Ф. Петракоў, газета „Гайновский рабочий“) і Кляшчэльскі (сакратар Т. А. Шунько), (т. IX, с. 58).

Пад кіраўніцтвам Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б дзейнічаў „Беластоцкі падпольны абласны камітэт ЛКСМБ (чэрвень 1943 г. — ліпень 1944 г., сакратары Т. М. Стрыжак, П. І. Папоў, В. А. Чыстова), які аб'ядноўваў 375 камсамольскіх арганізацый, 2 626 камсамольцаў“. Ён выдаваў 4 разы на месяц газету „Молодой партизан“ тыражом у 500 экземпляраў пад рэдакцыяй Я. І. Качана. Неабходна дадаць, што на Гайнаўшчыне і поўдні Беласточчыны дзейнічалі камсамольскія арганізацыі, якія былі падначалены Брэсцкаму падпольнаму абласному камітэту ЛКСМБ.

Па ініцыятыве Беластоцкага падпольнага абкома КП(б)Б „28 лістапада 1943 г. на базе шматлікіх антыфашысцкіх арганізацый“, якія дзейнічалі на тэрыторыі тагачаснай Беласточчыны, быў створаны Беластоцкі абласны антыфашысцкі камітэт (т. II, с. 272-3). „У маі 1944 г. пад кіраўніцтвам камітэта дзейнічала 86 антыфашысцкіх арганізацый і груп, якія аб'ядноўвалі 639 падпольшчыкаў... Антыфашысцкія арганізацыі вялі палітычную і ваенна-арганізацыйную работу сярод насельніцтва, мабілізавалі яго на актыўную барацьбу з фашысцкімі акупантамі. Яны знішчалі фашыстаў і іх памагатых, рабілі дыверсіі на камунікацыях ворага, перадавалі партызанам здабытыя на ворагу зброю і боепрыпасы, медыкаменты, звесткі разведкі. З удзелам падпольшчыкаў створаны скрыты партызанскі рэзерв у 3 190 чалавек“.

У ліпені 1943 г. ЦК КП(б)Б і Цэнтральны штаб партызанскага руху стварыў Беластоцкае партызанскае злучэнне (т. II, с. 271-2). Яго ўзначальваў відны дзеяч КПЗБ і савецкі работнік В. Е. Самуцін — сакратар Беластоцкага падпольнага абкома, начальнікам штаба з'яўляўся П. П. Капуста, намеснікам начальніка штаба — І. А. Сянкевіч. У Беластоцкае партызанскае злучэнне, між іншым, уваходзілі: Партызанская брыгада імя Кастуся Каліноўскага (т. VIII, с. 186), якая дзейнічала ў былых Крынкаўскім, Сакольскім, Беластоцкім, Граеўскім і Кнышынскім раёнах, а 27 ліпеня 1944 г. разам з Чырвонай Арміяй вызваляла Беласток; Партызанская брыгада „У імя Радзімы“, (т. VIII, с. 224), што змагалася ў былым Бранскім, Бельскім, Лапскім, Свіслацкім і Гайнаўскім раёнах, партызаны, між іншым, „пасля жорсткіх баёў з ворагам стварылі базу ў Белавежскай пушчы, блакіравалі нямецкі гарнізон у Белавежы, кантралявалі і ахоўвалі рэзерват з зубрамі, баявыя дзеянні праводзілі ва ўзаемадзеянні з польскімі патрыётамі“; Партызанскі атрад імя Багдана Хмяльніцкага (т. VIII, с. 243), які вёў барацьбу ў былых Бранскім, Бельскім і Цеханавецкім раёнах; а таксама шэраг іншых. „За час дзейнасці байцы Беластоцкага партызанскага злучэння падарвалі 418 вайсковых эшалонаў ворага, 1456 рэек, 193 чыгуначныя і шашэйныя масты, знішчылі 25 танкаў і бронемашын, 190 аўтамашын, 1 самалёт, разбілі 19 варожых гарнізонаў і штабоў, 23 валасныя ўправы, 6 нямецкіх маёнткаў, знішчылі больш за 18 тысяч і ўзялі ў палон 450 фашыстаў“. Калі ў ліпені 1944 г. брыгады і атрады Беластоцкага партызанскага злучэння аб'ядноўваліся з Чырвонай Арміяй, у іх налічвалася 4 165 узброеных партызанаў.

Беласточчына ў часе акупацыі была для фашыстаў сапраўды вогненнай зямлёй.

**І. Снарскі**

(Працяг са стар. 1)

## Пакуль дачакалася спакою...

пісаць, дык яго выбралі ў гэты сельсавет... А яны яго ў хаце... Яшчэ па сённяшні дзень асталіся прабоіны ў падлозе ад пісталетных выстралаў... І здзекваліся над намі, божа мой, як здзекваліся! І ўсюсенька абабралі. Асталася я голая і босая. Нават на панадворак не было ў чым выйсці. Памятаю, што савецкія салдаты, якія вярталіся з Германіі і спыніліся, каб вады напіцца, злітаваліся над намі, аставілі пару пледаў, ды яшчэ якую-колеч вопратку... А гаспадарка была вялікая, 13 гектараў. Сама арала і сеяла... і касіла... Дачок замуж павыдавала, сына ажаніла... І цяпер ужо спакою дачакалася, унукаў гадую... І людзі жывуць згодна. Рускія з польскімі не сварацца.

Вось яшчэ адзін закаранелы стэрэатып: *„Рускія“* абазначаюць тут *праваслаўных*, а *„польскія“* — каталікаў. Навука даказвае, што нельга атоесамліваць веравызнанне з нацыянальнасцю, аднак народны вопыт склаўся інакш, асабліва тут, у наваколлі Кузніцы, дзе і праваслаўныя і каталікі ў сябе дома, у штодзённым быце карыстаюцца чыстай беларускай гаворкай.

— Я вам тут нагаварыла, — спахапілася цётка Вольга, — а вы ж пра гэтыя цяпліцы толькі пыталі. Яны спулдзельчыя, бо мой сын супольна з іншымі гаспадарамі з Ласоснай чатыры гады таму назад заснавалі тут сельскагаспадарчы кааператыў.

**Віктар Рудчык**



TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 22.V.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 7.40 Słomkowy kapelusz — film fab. CSRS. 9.00 Dla szkół (kl VIII) Nauka o czł. Sprawy 15-lat. 10.00 (kl. I—III) Czerwone, żółte, ziel. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.20 Mech. rol. 14.50 Red. Szk. zap. 15.00 Pr. I prop. 15.15 Pr. dnia. 15.20 Dzien. 15.30 Obiektyw. 15.50 Wyścig Pokoju. 16.55 Sobota Mł. 17.55 P. nożna. ZSRR—CSRS. 18.55 Pol. Film Dok. Duda Gracz. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Jean Harlow — film fab. USA. 22.20 Dzien. 22.40 Sport. 23.00 Canzonissima. 23.45 Opow. Star. Pana.

- — -

**Niedziela 23.V.** 6.25 Tech. Rol. Chem. 6.55 Mech. rol. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Ziemia Onkilonów — film fab. radz. 12.10 Dzien. 12.30 Tylko w niedzielę. 12.35 Śpiewa Gianni Morandi. 12.45 Spotk. z B. Mierzejewskim. 13.05 Zaprzyjaźnij się z nami. 13.15 Śpiewa Paul Anka. 13.45 Dla dzieci. 14.35 Quiz—zabawa. 15.05 Saga rodu Małszygroszy — rep. film. 15.25 Czy zna pan swoją twórczość? 15.35 Los. Duż. Lot. 15.50 Wyścig Pokoju. 16.55 Czy zna pan swoją twórczość? 17.15 Inspektor do zadań specjalnych — film ser. fr. 18.15 Pr. rozr. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Śmiertelny chwyt — film ser. USA. 22.10 Nasz serial. 22.30 Sport. 23.00 Nasz serial. 23.10 Poczta Ernesta Brylla.

- — -

**Poniedziałek 24.V.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 15.15 Fiz. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Wyścig Pokoju. 17.50 Czarny Pasza — film ser. bułg. 18.55 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.45 Teatr TV: J. Szaniawski. Ptak. 21.45 Dzien. 22.00 JANUSZ ZAKRZEŃSKI. 22.35 Lekt. Pegaza.

- — -

**Wtorek 25.V.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 9.00 Dla szkół (kl. I lic) J. pol. J.U. Niemcewicz „Powrót posła”. 10.00 (kl. I—III) Czerw., żółte, ziel. 10.05 Inspektor do zadań specjalnych — film ser. fr. 13.25 Tech. Rol. Mat. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i mał. ekr. 17.30 Pr. muz. 18.00 Studio Mł. 18.50 Przemysł i medycyna. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 W pułapce — film ser. ang. 21.10 Interstudio. 21.55 Żywoty instrumentów. 22.55 Dzien.

- — -

**Środa 26.V.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół (kl. VI) Fiz. Wędrówki ciepła. 10.00 (kl. VII) Fiz. Świat dźwięków. 10.30 W pułapce — film ser. ang. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Fiz. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Dzien. 16.05 Obiektyw. 16.25 Dla dzieci. 16.55 P. nożna: Polska—Irlandia. 18.55 K.I. Gałczyński — Spotkanie z Matką. 19.05 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przygoda — film fab. wł. 22.40 Listy i polityka. 23.10 Dzien.

- — -

**Czwartek 27.V.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 9.00 Dla szkół (kl. I lic.) J. pol. Goethe—Schiller. 10.00 (kl. VI) Hist. Wódz kosynierów. 11.05 (kl. III lic.) J. pol. Z. Nałkowska „Granica”. 11.35 Przygoda — film fab. wł. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.05 Patrol. 18.40 Anatomia sukcesu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Trumna dla panny młodej — film fab. ang. 21.45 Pegaz. 22.30 Dzien. 22.45 100 pytań do A. Kuśniewicza.

- — -

**Piątek 28.V.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Hod. zwierz. 7.45 Trumna dla panny młodej — film fab. ang. 9.00 Dla szkół (kl. V) Geogr. Z kamerą w sawannie. 10.00 U źródeł Wisły. 11.25 (kl. II) Wszędobylski. 12.00 (kl. VIII) Wych. ob. Szkoła i środ. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przyg. Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.50 Inf. Wyd. 18.10 Myśl — film dok. 18.45 Przez maskę płetwonurka — film dok. fr. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Licytacja — wid. publ. 21.25 Drogowskazy. 22.15 Dzien. 22.25 Mój program — przedst. T. GWIAZDOWSKI.

ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 21.V** — 8.00 Film fab. 13.55 Film fab. 17.50 Film fab. 19.30 Koncert.
**Sobota 22.V** — 8.00 Film fab. 12.30 Film fab. 15.00 Nie do wiary. 17.00 P. nożna. ZSRR—Czechosł. 20.40 Koncert estrad.
**Niedziela 23.V** — 11.30 Film fab. 14.45 Panorama. 15.15 Pr. muz. 16.15 Filmy anim. 17.00 Film fab. 17.45 Śpiewa Rusłanowa. 18.10 Klub film. 19.30 Soliści operowi. 21.00 Mecz lekkoatl. ZSRR—Wielka Bryt.

КІНО

**Białowieża** Ucieczka przez pustynię — fr. 25—26. Los generała — radz. 27—28. Miłość 16-latków — NRD 29—30.
**Czyże** Rodzinny gang — wł. Trzej świadkowie — czes. 26—30.
**Dubicze Cerkiewne** Dzieje grzechu — pol. Michaś przywołuje świat do porządku — RFN 26—30.
**Gródek** Noce i dnie I s. — pol. 29—30.
**Kleszczele** Czarodziejskie dary — USA. 25—26. Deps — jug. 27—28. Życie rodzinne — pol. 29—30.
**Michałowo** Szaleństwo miłości — norw. 25—26. Porwanie — fr. 27—28. Historia samotnej dziewczyny — hiszp. 29—30.
**Mielnik** Dzielny szeryf Lucky Luce — fr. 26. Ballada o Kowpaku — radz. 29—30.
**Milejczyce** Telegram — radz. 25—26. Największe wydarzenie, gdy człowiek stanął na księżycu — fr. 27—28. Rudy lis — NRD 29—30.
**Narew** Miasto niezwykłe Warszawa — pol. Żeglarz znad Dunaju — węg. 26—30.
**Narewka** To ja zabiłem — pol. Operacja Y — radz. 26—30.
**Nurzec** Życie rodzinne — pol. 25—26. Królewskie marzenie — USA. 27—28. Gdzie jest jubilat — węg. 29—30.
**Orla** Charley Varrick — USA. Kobiety, które kochałem — rum. 26—30.
**Rajsk** Fraulein doktor — jug. Jezioro starej sowy — NRD 26—30.

B.Z.Graf. Zam. 1222 F-2

# ГРОДЗІСК

Пажаўцеўшыя і змуршэлыя пергаменты ў архівах не захавалі і следу сапраўднага імя гэтай цвердзі-крэпасці, што недзе ў змрочнай даўнасці была ўзведзена тут, на пагорку, на ўзбярэжжы такой жа безымяннай рачулкі, каб сцерагчы наваколле ад злоснага грабежніка-ворага. Ахоўваць жа было што: на прасторах ураджайнай раўніны густа расселіся паселішчы смердаўсялян, што ад золаку і да змяркання брылі, згорбленыя, за сахою і воклічам „Гэць!“ ці „Ксэ!“ правілі маруднымі валамі, каб баразна была роўнай і зямлякарміцелька пульхнай, ды радзіла яна князю на светлы, бы сонейка, каравай, а ратаю з яго сямейкай на чорны прасняк.





Язычнікамі былі. Памёршага клалі на вогненны стус, а калі ачышчальнае полымя адправіла ў нязведаныя нябесныя высі яго тленныя рэшткі, карпатліва згортвалі попел у верцехуурну і хавалі яго ў стаптанай іх босымі, парэпанымі ступнямі ды зрошанай іхнім салёным потам зямлі. І толькі сёння іх далёкія нашчадкі, рыхтуючы капец на бульбу ці выемку на падмурак пад новы цагляны домпрыгажун, выварочваюць гэтыя несамавітыя шэрыя пасудзіны і са здзіўленнем ды расчараваннем замест зззяючых залатых манет знаходзяць у іх ашкелкі спаленых касцей, вуголле ды попел — адзін след іх існавання на зямлі.

А там, дзе калісьці за абароннымі насыпамі і сценамі пагрозліва ашчэрвалася байніцамі крэпасць, сёння ў подыху вятроў-самавеяў перашэптваюцца паркавыя клёны, вербы, вязы ды ліпы. Ці ў іх пошуме згадае нехта адышоўшую ў нябыт даўнасць: свіст стрэлаў, апошні ўздых канаючых абаронцаў, шыпенне пражэрлівага агню, што травіць усё, каб і след аб рукатворным збудаванні не застаўся?

У цэнтры мястэчка пара коней галовамі адмахваецца ад настырных аваднёў, гаспадар усеўся на мяккім сядзенні воза і ў задуменні глядзіць у пустэчу крывых вулачак.

Адно каля колішняга панскага палаца, што цяпер, замест гучным балям, служыць народнай асвеце, бесклапотна гамоніць маладое пакаленне градзішчан.

Безымянная рачулка стала ўсяго толькі мелкаводным ровам і ціха ды няспынна нясе сваю мізэрную ўжо дань вірыстаму і бурліваму Бугу. Як калісьці, як тысячу год таму назад, калі тут жыло ўсходнеславянскае племя бужан, а сённяшні Гродзіск быў адным з іхніх 231 цвердзяў-гарадоў, што ахоўваў паўночныя рубяжы.

**Ігнат Снарскі**
фота аўтара








## БЕЛАСТОЦКАЕ АСВЕТНАЕ ПІСЬМЕНСТВА

Праўду кажучы, уласна педагагічнае пісьменства не належыць да пашыраных відаў творчасці на Беласточчыне. А гэта таму, што нашыя настаўнікі надта ж рэдка і неахвотна бяруцца за пяро, каб у друку падзяліцца вопытам сваёй працы над адукацыяй і выхаваннем маладога пакалення або каб выказаць асабістыя меркаванні па тых ці іншых асветных справах.

Добра ведаючы пра такі стан як былы работнік асветы, я з немалым здзіўленнем узяў у рукі кніжку **„Асветна-педагагічнае пісьменства на Беласточчыне ў XXX ПНР. Аднатаваная бібліяграфія“***), што выдаў Інстытут адукацыі настаўнікаў і асветных даследаванняў у Беластоку. У выданні знаходзім звесткі аж пра 370 (!) паасобных кніжных выданняў і артыкулаў, якія датычаць асветы на Беласточчыне. Яны паявіліся ў мінулым 30-годдзі (у асноўным у апошніх 15 год) пераважна ў „Беластоцкім асветным аглядзе“, „Асветна-культурным аглядзе“, „Беластоцкім гадавіку“, Навуковых сшытках філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, навуковых зборніках БГКТ, беларускіх календарах і інш. Матэрыял скласіфікаваны па раздзелах: асвета і выхаванне, адукацыя і арганізацыя школы, дашкольнае выхаванне і пачатковыя школы, сярэднія школы, асвета дарослых, вышэйшыя школы, рознае. Кожная публікацыя мае поўную бібліяграфічную дакументацыю (дзе змешчана, год выдання, абём, колькасць ілюстрацый і г.д.) і сцісла пераказ зместу.

Аўтары выдання У. Юзвюк і Б. Скалімоўская ўклалі многа працы, каб не абмінуць у ім ніводнай важнейшай публікацыі, зрабіць яго карысным для ўсіх, хто цікавіцца асветнай праблематыкай Беласточчыны, і зручным у карыстанні. Пастаўленае перад сабою заданне, каб „апрацаваныя аналізы даставілі багатую інфармацыю, неабходную для ўзняцця дыдактычна-выхаваўчай працы ў школе на сучасны ўзровень, а таксама для адукацыі і ўдасканалення настаўніцкіх кадраў“ яны добрасумленна і поўнасцю выканалі, даючы нам піянерскае для гэтай дзялянкі жыцця нашага рэгіёну выданне. Не абмінулі яны і матэрыялаў, якія кранаюць справы навучання беларускай мовы. Аднатаваны каля 20 публікацый, прысвечаных гэтай тэме; пры гэтым цікава заўважыць, што найбольш плённыя аўтары тут — гэта У. Юзвюк і У. Паўлючук.

І ўсё ж, учытваючыся ў прозвішчы аўтараў гэтых некалькіх соцень публікацый, нельга не заўважыць, што большасць з іх — гэта штатныя работнікі Інстытута адукацыі настаўнікаў і асветных даследаванняў, куратарыі, філіяла Варшаўскага універсітэта. Пры сонечным святле ды са свечкаю шукаць тут прозвішчы настаўнікаў, што неадрыўна працуюць у школах і маюць самае непасрэднае дачыненне з адукацыяй і выхаваннем дзяцей і моладзі. Бадай, таму тэмы публікацый вельмі часта абстракцыйныя, чыста канцылярскія, не кранаюць самых істотных праблем нашага школьніцтва. А нам жа патрэбен вопыт і голас настаўнікаў! Можа якраз выхад (хоць у выданні на ротапрынце і тыражом у 400 экземпляраў) „Асветна-педагагічнага пісьменства...“ заахвоціць іх да пяра. (мг)

*) Piśmiennictwo oświatowo-pedagogiczne na Białostocczyźnie w XXX PRL. Bibliografia odnotowana, Instytut Kształcenia Nauczycieli i Badań Oświatowych w Białymstoku, 1975 rok.




# Яшчэ раз пра беларускі кінематограф

У „Ніве“ № 11 за гэты год змешчана рэцэнзія на кніжку „Кино Советской Белоруссии“, выдадзеную маскоўскім выдавецтвам „Искусство“. Аўтар рэцэнзіі Пётр Байко піша: „Да гэтага часу, каб што-небудзь даведацца аб гісторыі, людзях і творчых пошуках беларускага кіно, трэба было перагартаць кучы гадавых сшыткаў розных дзённікаў і часопісаў фільмовых і не фільмовых“.

З гэтага вынікае, што названая вышэй кніжка з'яўляецца першай на тэму беларускага кіно. Я павінен сказаць, што аўтар глыбока памыляецца. Бо першая кніжка аб шляхах развіцця і асноўных творчых этапах беларускага кінамастацтва была выдадзена выдавецтвам Акадэміі навук БССР пад патранатам інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Рэдактарам гэтай кніжкі быў М. Лынькоў. Яе аўтар — А. В. Красінскі, В. І. Смаль, Г. П. Тарасевіч — падаюць гісторыю кінамастацтва рэспублікі, прасочваючы важнейшыя тэндэнцыі яго развіцця. Побач з аналізам найбольш значных фільмаў даследуецца таксама творчасць лепшых майстроў беларускага кіно.

Сёння беларускае кіно займае пачэснае месца сярод іншых відаў мастацтва. Кінематаграфістамі рэспублікі створаны фільмы, у якіх праўдзіва паказана не толькі поўная грандыёзных здзяйсненняў сучаснасць, але гістарычнае мінулае народа. А да Вялікага Кастрычніка рэспубліка, як і многія іншыя ўскраіны Расійскай імперыі, сваёй кінатворчасці не мела. Рэвалюцыя крута змяніла жыццё не толькі ўсёй Расіі, але і яе ўскраін. У 1922 годзе загадам народнага камісара асветы БССР было створана ўпраўленне па справах кінематаграфіі. Праўда, гэтае ўпраўленне доўга не праіснавала таму, што не мела трывалай базы.

17 снежня 1924 года была падпісана Пастанова Савета Народных Камісараў БССР аб утварэнні Дзяржаўнага ўпраўлення па справах кінематаграфіі і фатаграфіі — „Белдзяржкіно“. З гэтага часу па сутнасці і пачынаецца гісторыя беларускага нацыянальнага кінамастацтва.

Кніжка „Беларускае кіно“ (дарэчы, на роднай мове) цікава і змястоўна расказвае аб першых хранікальных фільмах, адкрыцці кінастудыі ў Ленінградзе. Многа старонак прысвечана таленавітаму рэжысёру і драматургу з Полацка родам Юрыю Тарычу. Трэба адзначыць, што Ю. Тарыч адным з першых стварыў на сцэне незабыўны вобраз У. І. Леніна. У кінематограф Ю. Тарыч прыйшоў з тэатра. Ён быў рэжысёрам і сцэнарыстам першага беларускага мастацкага фільма „Лясная быль“, у аснову якога пакладзена аповесць Міхася Чарота „Свінапас“. Фільм быў дэбютам Ю. Тарыча і настолькі ўданым, што „Лясная быль“ карысталася вялікай папулярнасцю не толькі ў гледачоў Савецкага Саюза, але і далёка за яго межамі. А вопыт творчай работы рэжысёра ў перыяд пастаноўкі гэтага фільма не страціў сваёй каштоўнасці і ў цяперашні час.

У перыяд дагукавога кіно кінематаграфія Беларусі стварыла многа фільмаў, у аснову якіх ляглі вялікія і малыя літаратурныя палотны.

Беларуская студыя ўзялася за асваенне гуку раней, чым іншыя нацыянальныя кінастудыі СССР. У жніўні 1929 года на беларускай студыі была створана спецыяльная лабараторыя, задача якой заключалася ў канструяванні гуказапісваючай апаратуры.

Гісторыя беларускага кіно вялікая і багатая. У кароткім артыкуле немагчыма расказаць аб усіх фактах і праблемах, парушаных ў тоўстай кніжцы. На заканчэнне хачу дадаць, што з 1946 года кінастудыя называецца „Беларусьфільм“. Яна забяспечана навейшай тэхнікай. Гэта дазваляе выпускаць дзесяць і больш поўнаметражных карцін у год.

**Уладзімір Малашкевіч**




## „ЛІТАРАТУРА“ — АБ „ПОЛЫМІ“ І „МАЛАДОСЦІ“

**„Што чуваць за мяжою?“** — пад гэтакім загалоўкам Ф. Няўважны апублікаваў у **„Літаратуры“** ад 29 красавіка г.г. агляд сакавіцкіх нумароў беларускіх і ўкраінскіх літаратурных штомесячнікаў.

Спыняючыся на цыкле вершаў маладой беларускай паэтэсы Нэлы Тулупавай, надрукаваны ў сакавіцкім нумары **„Полымя“**, Няўважны сцвярджае, што гэта — паэтычная падзея вялікага маштабу! Беларуская літаратура ўзбагацілася небанальным талентам.

Надрукаваны ў гэтым жа часопісе раман Івана Мележа **„Завеі, снежань“** сведчыць аб далейшым развіцці майстэрства выдатнага празаіка, які працягвае традыцыі вялікай эпікі, сінтэтызуючай у лёсах паасобных літаратурных герояў лёсы цэлага беларускага народа, што перажывае рэвалюцыйныя змены.

Няўважны звяртае ўвагу на аповесці Івана Навуменкі і Рыгора Семашкевіча, які дэбютаваў у сакавіцкім нумары **„Маладосці“**. У гэтым часопісе змешчаны новыя, цікавыя паэтычныя творы Вольгі Іпатавай, Юркі Голуба і Васіля Зуёнка.

*„Багаццем матэрыялу, шырынёй погляду і пранікнёнасцю ацэнак характарызуецца эсэ пра маладую беларускую прозу ў 1975 годзе Алеся Жука „Спадзяемся адкрыццяў“*, — піша Няўважны, аналізуючы змест трэцяга нумара **„Маладосці“**. Жук з'яўляецца адным з найбольш цікавых беларускіх навелістаў.

**С. Яновіч**

(Працяг са стар. 1)

# ФЁДАР ГАЛЁНКА

вае сярэднюю школу, здае экзамен на атэстат сталасці і ў 1947 г. паступае на грамадска-палітычнае аддзяленне Вышэйшай школы грамадскіх навук. Вучыцца і працуе адначасова асістэнтам у праф. М. Арлоўскага. Пасля заканчэння гэтай школы паступае ў 1949 г. на аддзяленне замежнага гандлю Галоўнай школы замежнай службы.

— Хоць і нялёгкія гэта былі часы, але ахвотна іх успамінаю, — усміхаецца мой субяседнік. — Тады я пазнаёміўся з Віктарам Шведам, і мы разам дзейнічалі ў Акадэмічным саюзе барацьбы маладых, засноўвалі гурткі гэтай арганізацыі, выдавалі насценгазеты, праводзілі спатканні з моладдзю не толькі ў Варшаве, але і ў адлеглых ад сталіцы мястэчках і вёсках.

Ф. Галёнка ў 1953 г. заканчвае вышэйшую школу і паступае на работу ў Найвышэйшую ізбу кантролю, затым у 1963 г. пераходзіць на работу ў аб'яднанне замежнага гандлю „Універсаль". Пазней, у 1969 г., яго накіроўваюць працаваць ў праўленне Савета эканамічнай узаемадапамогі ў Маскве. Адтуль ён вяртаецца ў 1974 г. і цяпер працуе ў экспартным прадпрыемстве „Энергаполь". У міжчасе Ф. Галёнка абараняе ў Інстытуце юрысдыкцыі Польскай акадэміі навук доктарскую працу на тэму „Міжнародная ахова інтэлектуальнай уласнасці". Цяпер рыхтуе яе да кніжнага выдання.

З нашым таварыствам Ф. Галёнка звязаны ад часу яго ўзнікнення ў 1956 г., належыць да вядучых дзеячоў варшаўскага аддзела БГКТ. II з'езд нашай арганізацыі ў 1960 г. выбраў яго членам Галоўнай рэвізійнай камісіі, а камісія выбрала Ф. Галёнку сваім старшынёй. Гэты адказны абавязак ён выконвае асабліва салідна, уносіць многа працы ў справу актыўнай і згоднай са статутам дзейнасці і належнай гаспадаркі фінансавымі сродкамі ў БГКТ. Кожны наступны з'езд нашага таварыства аж да VI уключна перавыбірае яго ў старшыні Галоўнай рэвізійнай камісіі, выказваючы такім чынам высокае прызнанне ахвярнасці, аб'ектывізму і саліднасці гэтага перадавога нашага актывіста. Пасля вяртання ў Варшаву ў 1974 г. Ф. Галёнка зноў ахвярна дзейнічае ў БГКТ, апошняя справаздачна-выбарная канферэнцыя варшаўскага аддзела выбрала яго намеснікам старшыні аддзела і дэлегатам на VIII з'езд БГКТ.

Ф. Галёнка кажа: Добра гаспадарыць можа толькі адукаваны і культурны чалавек. Таму БГКТ павінна больш увагі прысвячаць справе павышэння адукацыі і культурнага ўзроўню насельніцтва Беласточчыны, праводзіць больш лектарскай работы ў вясковых клубах і святліцах. Нам неабходна зрабіць усё, каб у нашым асяроддзі паўсталі беларускія прафесіянальныя тэатр, музей, выдавецтва. Трэба садзейнічаць таксама развіццю турызму з Беласточчыны на Беларусь у шырэйшым плане, напрыклад, школьнай моладзі, дарослых, настаўнікаў, творчай інтэлігенцыі, сялян і г.д. Гэта напэўна будзе спрыяць умацаванню дружбы паміж Народнай Польшчай і Беларускай ССР.

— Я лічу, — сцвярджае Ф. Галёнка, — што ўведзеныя ў апошнім часе ў Канстытуцыю ПНР новыя фармуліроўкі адносна поўнага забеспячэння роўных правоў усіх грамадзян нашай краіны незалежна ад іх нацыянальнасці, веравызнання, паходжання ствараюць прыхільныя ўмовы для разгортвання шырэйшай працы Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

# Сёлетні цэнтральны

Самадзейнікі з Гарадка (17 асоб) паставілі „Адвечную песню" Я. Купалы. Працавалі яны пад кірункам Н. Мушынскай і С. Копы. Паказалі высокую культуру выканання. У гарадоцкіх акцёраў-аматараў кожны рух быў прадуманы, як прадуманы былі таксама кожнае слова і яго інтанацыя. Дэкарацыя таксама была трапна дапасавана. Відаць, што члены драмгуртка не лічыліся з працай. Рабілі і зрабілі ўсё, чаго патрабаваў твор. І атрымалася ўсё на высокім мастацкім узроўні. Доказ — гарадоцкі артыст-аматар Уладзімір Лукошык атрымаў спецыяльную ўзнагароду „Нівы" для найлепшага самадзейнага акцёра. За пасьпяховую ігру на сцэне была ўзнагароджана Ніна Цыванюк, таксама з Гарадка. Выконвала яна ролю маці. Паказала вялікае тэатральнае пачуццё і амаль прафесіянальнае выкананне.

Журы агляду не прызнала месц паасобным тэатральным калектывам. Аднак усе калектывы атрымалі грашовыя ўзнагароды.

Сёлетні цэнтральны агляд тэатральных калектываў выклікаў шэраг думак. Чаму ён не быў папярэджаны ўступнымі аглядамі, як гэта было ў мінулыя гады? Рэгуламін аб чымсьці падобным не гаварыў. Навошта тады яго апрацоўваць, дасылаць шырокаму кругу зацікаўленых людзей? Таму асабіста не здзіўляюся, што на цэнтральным аглядзе самадзейнікі паказалі самы скрайні ўзровень і гэтым самым паставілі ў клопаце журы агляду. Журы не прызнала месц, „каб не знеахвоціць да рэшты, што прыехалі на агляд, самадзейнікаў". Ну і навучыліся мы дзьмухацьхухаць. Ведаю, што кепска гэта можа скончыцца. Іменна, не прызнаючы месц, мы зражаем да далейшай працы лепшыя калектывы. Затрачваем выхаваўчы момант. Калі так будзе далей, дык калектывы ўвогуле перастануць да чаго-колечы імкнуцца, чагосьці дабіцца. У кожным выпадку не ўзроўню, а гэта ж — найважнейшае. Няведама чаго мы пачалі баяцца. Што мо з часам заглохнуць зусім тэатральныя калектывы? Мабыць, не перастануць яны дзейнічаць у далейшым, калі будзем больш увагі адводзіць справам рэпертуару і фахавага інструктажу. Сёння без добра падрыхтаванага інструктара ні на крок.

Мо яны выкаранілі б урэшце гарэлку? А то што ні пастаноўка, дык адразу ставяць на стол гарэлку. У гэтым заключным аглядзе не абыйшлося без паўлітра аж у трох пастаноўках. А столькі ўжо разоў пісалі мы на старонках „Нівы".

На сёлетнім аглядзе мала было гледачоў. У Бельску не відаць было зацікаўлення нашымі аглядамі. А вось зусім інакш у Беластоку. Дык чаму арганізуюцца агляды не там, дзе павінны арганізавацца? З шматгадовай практыкі ведаем, што беластоцкае насельніцтва больш жыва цікавіцца культурнымі мерапрыемствамі Беларускага таварыства.

У сваю чаргу трэба вінаваціць бельскіх актывістаў БГКТ, якія не арганізавалі публіку. Пусцілі на самацёк. А трэба было ўсё прадбачыць загадзя. Сама школьная моладзь з белліцэя ў Бельску запоўніла б залу. Для яе, а асабліва ліцэістам, такі агляд быў бы добрым жыццёвым урокам. Мог бы быць гэта ўрок па літаратуры. Урок жывога слова. Цікавы ўрок.

І так пра сёлетні цэнтральны не вельмі аптымістычна. Крыху з сумам, крыху з жалем. Што ж, вывад трэба якісьці з гэтага зрабіць.

**Янка Цялушэцкі**
Фота аўтара

# Доўбыш з Заставы



Фігуркі зуброў, рэзаныя ў драўніне, карыстаюцца поспехам у многіх турыстаў, якія прыязджаюць у Белавежу. Ля ларкоў з памяткамі заўжды процьма пакупнікоў. Каб грошай хапала, куплялі б усё. А тым, каму не хапае, цікава і паглядзець.

У Белавежы жыве цяпер ужо даволі многа людзей, якія займаюцца „длубанінай у драўніне", ды выразна таленавітых у гэтым напрамку можна палічыць на пальцах адной рукі. Адным з іх з'яўляецца Сяргей Доўбыш з Заставы (раён Белавежы). Яго зубры заўжды адзначаюцца добрым мастацкім густам. І, што важнейшае, напамінаюць сапраўднага, жывога зубра ва ўсіх дробязях. Такая статуэтка прыцягне вока кожнага турыста.

С. Доўбыш не гоніцца за колькасцю. Як сам кажа, яму б было сорамна даць у продаж якую-небудзь фігурку, па якой відаць расхлябанасць у заканчэнні. Такі пункт гледжання прыносіць узаемныя карысці і пакупніку, і творцы.

Правільна ацаніў працу С. Доўбыша Цэнтральны саюз рамяства, калі на Агульнапольскай выстаўцы мастацкага рамяства ў Варшаве ў 1974 годзе прызнаў яму ганаровую грамату. А ацэньваўся толькі адзін з чарговых прадуктаў творцы, зусім не рыхтаваны спецыяльна на выстаўку.

Сяргей Доўбыш, апрача зуброў, вырэзвае ў драўніне і іншую ляснуую звярыну: аленяў, дзікаў, мядзведзяў. Выконвае таксама драўляныя талеркі, якія аздабляе абпальванымі ўзорамі (напр. — такуючы цецярук, зубр ля дуба). Яго прадукты разыходзяцца не толькі на тэрыторыі Польшчы. Ідуць і заграніцу. Цяпер ужо цяжка палічыць усе дзяржавы, у якія трапілі фігуркі белавежскага творцы.

Сяргей Доўбыш пачаў рэзьбіць урыўкамі пасля працы, у 1961 г. Вось так сабе, для прыемнасці. Бачачы, што з гэтага штосьці выходзіць і што ёсць на яго фігуркі запатрабаванне, у 1968 г. заняўся гэтай працай ужо пастаянна. Запісаўся ў цэх рамяства, а свае вырабы пачаў здаваць спярша ў „Цэпэлію", а затым у „Дом рамяства" ў Беластоку. Поспехаў дабіўся сам па сабе. Зразумела, што не абышлося тут без вывучэння сілуэтаў зубра, аленя ці дзіка. Памаглі таксама „залатыя рукі".

**П. Байко**
фота аўтара

# Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА XXI

**Жыццёвае і творчае credo.** Да праграмных твораў, прысвечаных літаратурным пытанням, трэба залічыць перш за ўсё „Мой верш" і штосьці накшталт драматычнай паэмы „Поэта, Маці і Муза". У вершы Гартны стараецца сфармуляваць сваю творчую праграму:

*Мой верш — мая душа*
*І думка шчырая мая!*
*У кожным слове маё я,*
*Мой верш — мая душа.*

*...Крышталь слязы у ім,*
*Гармонны рытм красы,*
*Спакою мне дае часы*
*Адблеск красы у ём.*

*...Таемны выгляд слоў*
*Хавае шмат падчас*
*Цярпенняў цяжкіх без прыкрас,*
*Ў якіх і боль, і кроў.*

У гэтым творы паэт шмат разоў гаворыць аб тым, што верш з'яўляецца адлюстраваннем душы, падкрэслівае таямнічасць верша і яго прыгажосць. Усё гэта не значыць, што Гартны трактуе сваю паэзію як з'яву выключна ініцыятыўную і суб'ектыўную. Падкрэслівае ён, што паэзія — гэта люстра не толькі душы паэта, але і люстра рэчаіснасці, у якім адбіваецца і боль, і радасць, і прыгажосць, і брыдота жыцця. У фінальнай страфе Гартны паўтарае два разы думку аб тым, што верш патрэбен. Хоць паэт і не гаворыць выразна, каму патрэбен верш, але няма сумненняў, што і аўтару, і чытачу.

Варта звярнуць увагу і на недахопы гэтага твора. Праяўляюцца яны ў старых, традыцыйных спосабах атоесамлівання душы і творчасці. Аб гэтым ужо гаварылі і паэты старажытнасці, і паэты адраджэння, і рамантыкі, і сентыменталісты. Праўда, тут цяжка выдумаць нешта новае і, мабыць, паэты на працягу наступнай тысячы гадоў будуць звязваць творчы працэс з духам чалавека, аднак ад паэтычнай асацыяцыі „душа — верш" вее архаічнай заскарузласцю.

Бадай найбольш характэрным для творчага credo Гартнага з'яўляецца паэмка „Поэта, Маці і Муза". Твор гэты пісаў Гартны на працягу некалькіх гадоў. Пад творам выступае аднатацыя: „Вілкамір-Пецярбург, 1912-1915". З гэтага, зразумела, не вынікае, што Гартны безупынна, на працягу трох гадоў працаваў над паэмай. Праўдападобна, спыняў працу над творам, пасля зноў вяртаўся да яго. Беручы аднак пад увагу, што твор налічвае каля васьмісот радкоў і што выказаны ў ім важныя меркаванні аб паэзіі і творчасці ўвогуле, можам думаць, што для яго напісання спатрэбілася аўтару нямала часу.

Увесь твор збудаваны на дыялагах, а па сутнасці на маналогах. Героі твора выступаюць з доўгімі тырадамі, выказваючы свае меркаванні аб жыцці і паэзіі, аб справах матэрыяльных і духоўных, аб рэчаіснасці і марах. Несумненна, круг такіх пытанняў мусіць цікавіць усіх паэтаў, дык нічога дзіўнага, што зацікавіў ён і Гартнага. У творы, як ужо аб гэтым сведчыць загаловак, выступаюць тры героі: паэт Апанас, яго маці і муза. Можа, нельга атоесамліваць героя паэмы паэта Апанаса з Цішкам Гартным, аднак няма сумненняў, што многія яго погляды можна прыпісаць аўтару твора.

Твор спецыфічны па сваёй структуры і стылістыцы. Увесь ён пабудаваны на размове герояў. Аднак размова з'яўляецца тут па сутнасці толькі прадлогам. Паасобныя героі як бы не слухаюць іншых, чакаюць моманту для выказвання сваіх уласных думак і канцэпцый. Маем тут дачыненне з дыялагам глухіх. Кожны з герояў загледжаны ў сябе, кожны верыць сабе, кожны слухае сябе. Выказванні герояў — гэта найчасцей паэтычныя дэкларацыі. Датычыць гэта перш за ўсё Паэта і Музы. Адрозніваецца ад іх тону тон выказвання Маці, якая карыстаецца больш натуральным стылем, адпаведным да яе паходжання і бытавога способу мышлення.

## Ці ведаеце, што...

*...у Варшаве жыве 3,5 тысячы кароў, 2,6 тысячы коней і звыш 20 тысяч свіней.*

*...найдаўжэйшай вуліцай у Варшаве з'яўляецца вуліца Пулаўская, якая мае даўжыню ў 12,5 кіламетраў.*

*...найбольшым і найвышэйшым будынкам у Варшаве з'яўляецца Палац культуры і навукі, вышыня яго 231 метр.*

*...у Польшчы вышэйшую адукацыю мае 800 тысяч людзей і поўную сярэднюю адукацыю — звыш 4 мільёнаў грамадзян.*

*(ця)*

ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Настаўніца Марыя Акуроўская з Заблудава.*

**Фота Я. Цялушэцкага.**

## Нашы браты, нашы суседзі

Я рашыла напісаць вам пра нашых працавітых суседзяў — вучняў пачатковай школы № 3 ў Бельску. У апошні час у іх вялікія дасягненні.

„Навука, праца — змест нашых дзён", — спяваюць на апэлі вучні пачатковай школы № 3 у Бельску. Яны сапраўды добра вучацца. Некаторыя з вучняў старэйшых класаў прымаюць удзел у прадметных конкурсах.

Усе школьнікі вельмі добра ведаюць вучня VIII класа Андрэя Карпюка. Ён удзельнічаў ужо ў матэматычным, паланістычным і геаграфічным конкурсах. Першае яго месца ў гарадскім элімінацыях паланістычнага конкурсу і першае ў матэматычным былі вельмі прыемнай весткай усім нам. Радасць пабольшылася яшчэ ў момант, калі ўсе даведаліся аб тым, што Андрэй перамог і ў ваяводскіх элімінацыях геаграфічнага конкурсу.

Я размаўляю з Андрэем. Ён скромна гаворыць пра сябе і пра сваю навуку. Васьмікласнік цікавіцца перш за ўсё геаграфіяй і матэматыкай.

— Ёсць столькі цікавых рэчаў, пра якія ў нашым падручніку не гаворыцца. Дык я пачаў шукаць іншых кніжак ды часопісаў.

— Чакаюць цябе яшчэ два конкурсы — фізічны і біялагічны. Зноў трэба будзе многа працаваць. Ці ў цябе спецыяльныя метады працы?

— Не. Па-мойму трэба толькі сістэматычна вучыцца і па меры магчымасцей часта паўтараць пройдзены матэрыял.

— Як ты ўспамінаеш свой апошні конкурс? Тваё першае ў ваяводстве месца вельмі ўзрадавала і тваю настаўніцу М. Базылюк, і дырэктара школы, і тваіх таварышаў.

— Я ехаў на ваяводскія элімінацыі з думкай, каб не быць горшым ад іншых вучняў з Бельска. Планаваў заваяваць месца ў першай дзесятцы, а выйшла так, што я першы.

— Пяць конкурсаў, ці гэта не замнога?

— Вельмі цаню я магчымасць пашырэння сваіх ведаў, а менавіта гэтыя конкурсы даюць мне такую магчымасць.

— Куды плануеш паступіць пасля заканчэння пачатковай школы?

— Я хачу вучыцца ў нашым бельскім белліцэі ў матэматычна-фізічным класе.

Як гэта прыемна, калі добрыя вучні збіраюцца ісці ў наш ліцэй! Многа іх прыходзіць з бельскай „тройкі".

У гэтай школе можна пашырыць свае веды, займаючыся ў навуковых і мастацкіх гуртках. У першай групе знаходзяцца матэматычны, паланістычны, фізічны і біялагічны гурткі. Ёсць яшчэ школьны хор, спартыўны клуб і мастацкі гурток. Зусім нядаўна пачаў дзейнічаць дзіцячы дыскусійны фільмовы клуб.

У VII б група вучняў займаецца выданнем класнай газеты. Яны ўмеюць вельмі трапна пісаць пра жыццё класа, умела крытыкаваць.

У пачатковай школе № 3 вучні змагаюцца для дабра школы і для сябе аднача́сова. Таму мне хочацца пажадаць ім і іх настаўнікам далейшых выдатных дасягненняў. Іх дасягненні цешаць усіх нас, тых, што памятаюць яшчэ школьныя гады ў „тройцы".

**Крыстына Парфенюк,**
Бельскі беларускі ліцэй
III ц клас

## ЗМАРНАВАНАЯ ГРАМАДСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Збуч, які налічвае 90 хат — адна з большых і да таго актыўных вёсак у рэалізацыі грамадскіх чынаў у Чыжоўскай гміне. Яе жыхары здзейснілі шматлікія задумы, але вось адна не змаглі ажыццявіць.

А было так.

У 1970 годзе збучоўскія сяляне вырашылі ўсёй вёскай пабудаваць школу. Калі інспектар аддзела асветы адступіў жыхарам Збуча на гэта ліквідаваны ў Гайнаўцы мураваны будынак, яны мігам яго разабралі і перавезлі ў сваю вёску. Атрымалася 30 тысяч штук цэглы, былі бэлькі, кроквы, дошкі і іншыя будаўнічыя матэрыялы. Каб не забракла цэглы, дакупілі яшчэ больш 10 тысяч штук (за ўласныя грошы, сабраныя ад кожнага гаспадара-адасельчаніна). Хуценька заказалі дзверы і вокны. Чакалі толькі плана, які марудна выконвала гайнаўскае бюро. Калі ўжо яго мелі, дружна ўзяліся за пабудову даўно задуманага аб'екта. Неўзабаве быў гатовы высокі стройны фундамент.

І хто ж мог прадбачыць, што праз нейкі час усё можа спыніцца і ніколі больш не варухнецца наперад.

Ужо ад 1973 года, а можа крыху пазней, на гэтай пляцоўцы ніхто больш не паяўляўся, ніхто не прыйшоў сюды папрацаваць. Усё заціхла.

У чым жа прычына?

Жыхарам вёскі Збуч не ўдалося атрымаць дзейснай дапамогі ад гмінных улад. А вядома, на пабудову спатрэбіліся значныя фінансавыя сродкі.

Ідуць гады. Усё больш рассыпаецца раструшчаная цэгла, якую вазакі так і скінулі на абочыне вясковай дарогі. Яшчэ й не было каму наглядаць за ёю. Таму шмат цэглы ўжо не стае.

Кучай цэглы на дарозе зацікавіліся і міліцыянеры. Яны загадалі забраць яе адсюль. Яна пагражае праезжым і пешаходам. Асабліва ўначы.

СКР намераны развіваць гадоўлю свіней. Да гэтага спатрэбілася яму тутэйшая паспулдзельчая абора. У ёй дагэтуль стаялі зробленыя па заказу дзверы і вокны. Што будзе з імі, калі знойдуцца так, як і цэгла, пад голым небам, не цяжка сабе ўявіць. Змарнавалася адно, змарнуецца і другое. Калі толькі ніхто пра іх не задбае.

Усё гэта вельмі занепакоіла ў канцы канцоў жыхароў Збуча. Таму вырашылі яны напісаць пісьмо ў нашу рэдакцыю. Солтыс і яшчэ адзінаццаць чалавек. У ім чытаем: „Пры пабудове школьнага будынка мы ўкладылі столькі працы і грошай. І ўсё марна. Быццам на вецер выкінулі".

Так. Вось так. Не ведаем мы, ці гэтай справай займаліся радныя і ці абмяркоўвалі яе на сесіі гмінная рады. Не ведаем, як справу пабудовы школы ў Збучы бачаць члены мясцовай партарганізацыі. На нашу думку, мясцовыя арганізацыі павінны былі гэтай важнай для ўсёй вёскі справай даўно заняцца. Не чакаць, што гэта нехта за іх зробіць.

Мінула цэлая пяцігодка. Пачалася другая. Незаўважальна бягуць дні, месяцы. У вёсцы Збуч справа ўжо не ў школе. Жыхары не думаюць пра свяліцу, у якой памясціўся б клуб селяніна. Некаторыя згаджаюцца, што прыдалася б раміза. Дзеці ў верасні і так пойдуць у гмінную школу ў Чыжы. Так вырашылі асветныя ўлады.

Аднак нельга так пакінуць зроблены грамадскім супольным чынам падмурак. Яго неабходна выкарыстаць. Мо на штонебудзь спатрэбіцца некаторыя будаўнічыя матэрыялы? Важна, каб разбудзіць ініцыятыву збучан вакол нейкага канчаткова прадуманага і вырашанага мерапрыемства.

Нельга змарнаваць іх добрую і карысную ініцыятыву, іх грамадскую працу.

**Я. Цялушэцкі**

## Кажуць, што...

...за Трасцянкай, недзе паміж Сакамі і Іванкамі, чэрці людзей водзяць.

Сваіх, мясцовых людзей ім вадзіць не ўдаецца. Тыя самі куды хочаш іх завядуць. Але калі хто чужы трапіцца, дык сцеражыся!

Здарылася неяк і мне трапіць на іх лейцы нячыстыя. Блукала я больш гадзіны ў пошуках Іванкаў. А адзін прафесар з Варшавы дык так там даўся чарцям затуманіць, што да вечара ад іх ледзь вырваўся.

Усё дзеялася на адлегласці каля чатырох кіламетраў. А прафесар ехаў „Фіятам".

Толькі выехаў прафесар за Трасцянку, а тут яму адразу ж чэрці (а можа хто іншы?) і падсунулі дарожны слуп з надпісам „Іванкі — 4 км". Глянуў прафесар і адразу засумняваўся: дарогі зусім няма, толькі сцежка віецца паміж маладымі хвойкамі. Не адважыўся ён ехаць гэтай сцежкай. „Дай, — думае, навучаны вопытам, — яшчэ трошкі па шашы пад'еду, можа дарога лепшая будзе". Пад'ехаў некалькі метраў: а як жа, ёсць — „Іванкі-Рагазы — 4 км". Паехаў.

Ехаў ён, ехаў гразкай, балоцістай дарогай і даехаў да скрыжавання. „А цяпер куды?" Кінуўся ўправа — заграз. Ледзь ногі выцягнуў з балота. Кінуўся ўлева — паехаў. І прыехаў... у Сакі. Добра і тое, хоць людзей убачыў.

Параілі яму людзі вярнуцца да шашы, але прафесар не паслухаўся. Прывучаны верыць дарожным паказальнікам, ён паехаў далей і зграз у такім балоце, што аж чэрці зарагаталі.

Прыпомніў ён добрую раду людзей з Сакоў і вярнуўся да шашы, да таго няшчаснага слупа, што яго так вадзіў па бездарожжы.

„Ну, — думае прафесар, — паеду ў Нарву, можа там лепш ведаюць, дзе тыя Іванкі".

Толькі ён разагнаўся, а тут на шашы зноў слуп з паказальнікам „Іванкі-Рагазы — 3 км". І паказвае слуп на шырокую асфальтаваную дарогу. „Ехаць ці не ехаць? — разважае прафесар. — А можа гэта зноў нейкія чортавы хітрыкі?"

Але ўспомніў прафесар, што ў нячыстую сілу даўно перастаў верыць, і смела рушыў у Іванкі.

Праз некалькі хвілін быў ужо доўгачаканым госцем у Іванках. А пры гасцінным чарцы доўга яшчэ абмяркоўвалі важную справу: хто ж гэта вадзіў прафесара па бездарожжы, калі чарцей няма? Нехта ж паставіў тыя дарожныя паказальнікі!

Але хто?

(яч)

## ХРОНІКА

■ У Орлі старшынёю сходу, гуртка БГКТ выбралі Анатоля Мартыновіча. Справаздачны даклад прачытала Вера Валкавіцкая, а праект плана працы гуртка прадставіла Ніна Мартыновіч. У дыскусіі выступілі: Анатоль Мартыновіч, Ніна Война, Яўген Балло, Антаніна Рагоза і Ілья Агіевіч. Сцвярджалі яны, што неабходна ў Орлі мець сталага карэспандэнта „Нівы", што мастацкі калектыў трэба павялічыць і што пажаданае большае, цяснейшае супрацоўніцтва з настаўнікамі. Затым адбыліся выбары. У склад новага праўлення ўвайшлі: Ніна Мартыновіч — старшыня, Ніна Война — сакратар, Антаніна Рагоза — скарбнік, Анатоль Мартыновіч, Яўген Балло і Мікалай Ляшчынскі — члены. Дэлегатам на з'езд БГКТ выбраны Анатоль Мартыновіч.

■ Агароднікі (гміна Бельск) гурток БГКТ, у якім 23 члены, новае праўленне выбраў у такім складзе: Валянцін Галёнка — старшыня, Пётр Барысюк — сакратар, Валянціна Аніпчук — скарбнік, Софія Галёнка, Мікалай Юрчук, Янка Вакулеўскі, Люцына Якімюк, Мікалай Вакулеўскі і Сцяпан Галёнка — члены праўлення.

■ Падчас урачыстасці, звязанай з адкрыццём святліцы ў Новым Беразове (гміна Гайнаўка), у мастацкай частцы выступілі фальклорны калектыў з вёскі Арэшкава са сцэнкай „Вечарынка-пакудзелле".

■ Гарадскі гурток БГКТ у Беластоку 28 красавіка арганізаваў сустрэчу з доктарам Уладзімірам Паўлючуком.

■ 29 красавіка ў памяшканні ГП адбылася першамайская акадэмія. З дакладам выступіў Міхась Хмялеўскі. Пасля: кароткі канцэрт акардэаністаў, якія вывучаюць музыку ў памяшканні ГП, выступленне калектыву „Каласкі" і п'еса Е. Бондарава аб жаніцьбе — у выкананні гарадскога тэатральнага калектыву.

(мх)

## ФАЛЬКЛОР




*Посію я конопэлёк коло дорожэнькі —*
*загнєвауся мой міленькі чэрэз ворожэнькі,*
*загнєвауся мой міленькі чэрэз ворожэнькі.*
*А я тые конопэлькі косою іскошу —*
*а я свого міленького людьмі пэрэпрошу,*
*а я свого міленького людьмі пэрэпрошу.*
*Просіў ойтєц, просіла мать, просіла родіна,*
*нэхай його пэрэпросіт ліхая годіна,*
*нэхай його пэрэпросіт ліхая годіна.*
*Дієўчынонько, дієўчынонько, якая ты міла,*
*штыры волы, як соколы, од воды гоніла,*
*штыры волы, як соколы, од воды гоніла.*
*Штыры волы, як соколы, всё рогамі чэшут —*
*оддай, оддай, маті, дочку, хай людэ нэ брэшут,*
*оддай, оддай, маті, дочку, хай людэ нэ брэшут.*
*Ой, хоч брэшут, хоч нэ брэшут — забэры їх ліхо —*
*мы обое, сэрце мое, кохаемсе тіхо,*
*мы обое, сэрце мое, кохаемсе тіхо.*
*Кохалісе-любілісе, як голубы ў пары,*
*а тэпэр розлучылісе, як чорные хмары,*
*а тэпэр розлучылісе, як чорные хмары.*
*Чорные хмары, чорные хмары вієтёр розгоняе,*
*а нас двое, сэрце мое, ніхто нас нэ знае,*
*а нас двое, сэрце мое, ніхто нас нэ знае.*

Ад Веры Іванюк, 1910 г. нараджэння, Надзеі Федарук, 1911 г. нараджэння, і Ніны Васілюк, 1934 г. нараджэння, вёска Плёскі гм. Храбалы, запісаў 5 лістапада 1975 года М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ — THE RUBETTES



*Заказвалі Ян Врублеўскі з Бельска і дзяўчаты з Парцава.*

## Куток практычных ведаў




### ВЕСНАВЫЯ ПАРАДКІ Ў ПОГРАБЕ

Найчасцей паграбы змяшчаюцца пад будынкамі (зразумела, часамі будуюць іх і побач з хатаю). Як адны, так і другія добра выконваюць сваю ролю, калі яны адпаведна абсталяваны. Перш за ўсё неабходна, каб яны мелі добрую вентыляцыю. Павінны таксама ахоўвацца ад доступу грызуноў і быць адпаведна ізаляванымі, што (асабліва летам) дасць магчымасць утрымліваць там нізкую тэмпературу. Сценкі і падлога пограба павінны быць шчыльныя, акенцы забяспечаны сеткай супраць мух.

Пачынаючы рабіць веснавыя парадкі, перш за ўсё трэба выбраць усе астаткі зімовых запасаў. Пасля гэтага пограб трэба дакладна вымесці, вышараваць, высушыць, а пазней пабяліць свежа пагашанай вапнай.

Усе скрынкі, у якіх перахоўваецца гародніна, а таксама паліцы, розныя бочкі і бочачкі трэба вынесці на двор і вышараваць гарачай вадой з содаю. Усё гэта высушыць і паставіць назад у чысты і ўпарадкаваны пограб.

Часамі здараецца так, што недастаткова памыць пограб і выбеліць яго свежа пагашанай вапнай. У пограбе можа завесціся плесень ці нейкія рабакі, якіх, так сказаць, „не бярэ“ вапна. Каб правесці дакладную дэзінфекцыю, трэба дадаткова правесці яшчэ так званае „серкаванне“ памяшкання. Заўсёды робяць гэта перад тым, як бяліць пограб. З гэтай мэтай усе вентылятары і акенцы трэба шчыльна закрыць, неабходна пазатыкаць таксама дзіркі ў дзвярах (калі такія ёсць). Пасля гэтага гарачыя, распаленыя драўляныя вуголлі рассыпаць на бляшку, а на іх насыпаць серу. Хутка пакінуць гэтае памяшканне, шчыльна замыкаючы на 24 гадзіны. Далей памяшканне трэба добра праветрыць і толькі тады пачынаць яго мыць і бяліць.

У такім пограбе не толькі не будуць псавацца прадукты, перахоўваемыя на працягу ўсяго года, але і прыемна будзе туды зайсці.

**Гаспадыня**

---

Астроне, сніліся мне тры даволі цікавыя сны. Аднойчы снілася мне, што я са знаёмым хлопцам узбіраюся на высокую гару. Сама не ўзышла б на вяршыню гары, але дапамог мне ў гэтым хлопец. Калі мы былі ўжо на вяршыне, то ўбачылі доўгую сцежку, якая бегла з самай гары. І мы разам пайшлі па ёй.

У другі раз мне снілася, што я бяру шлюб з іншым хлопцам. Я ў белай сукенцы і доўгім вэлюме, а ён у чорным касцюме. Хлопец надзеў мне на палец абручальнае кальцо.

Трэцім разам снілася, што той хлопец, з якім я была ў гарах, прыслаў мне ў канверце грошы (100-залатоўкі і 50-залатоўкі). Але, калі я пачала браць іх у рукі, аказалася, што былі гэта вельмі прыгожыя паштоўкі. А хлопец, з якім я брала шлюб, прыслаў мне многа дробных грошай. Што аб гэтым думаць?

Верная чытачка




Дарагая верная чытачка! Вы падалі мне тры вашыя сны, а я пастараюся іх вам абагульніць, бо сны сапраўды цікавыя і шматзначныя.

Ва ўсіх вашых трох снах выступаюць два хлопцы. І ўсё гаворыць за тое, што прыемныя адносіны (а мо нават і больш) будуць у вас з першым хлопцам. Можа ён дапаможа вам у нейкай бядзе, можа пры ім вы пераможаце цяжкасці, якія стаяць перад вамі, а мо нават пойдзеце з ім супольнай дарогай! Вы ж разам з ім узышлі на вяршыню гары і пайшлі адной сцежкай. У кожным разе, ад гэтага чалавека вы не будзеце мець непрыемнасцей, і можаце на яго разлічваць. Гэта ж пацвярджаецца і ў трэцім сне, у якім вы атрымалі ад яго паштоўкі (каб не аказаліся гэта паштоўкі, то абазначала б гэта прырост сям'і).

Ад другога хлопца сімпатычных адносін вы не дачакаецеся. Вы ж у другім сне бралі з ім шлюб, а гэта б абазначала нейкую непрыемнасць ці сварку. Факт гэты пацвярджае і тое, што прыслаў ён вам дробныя грошы (заўсёды непрыемнасць!). Так што выбірайце...

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мне 17 год. Я вучуся ў сярэдняй школе ў Бельску. У той жа школе вучыцца мая сяброўка Марыся. Яна на год малодшая за мяне. Пазнаёміўся я з ёю ў пачатку школьнага года. Яна мне вельмі спадабалася, але я нясмелы і ніяк не адважыўся прызнацца ёй у каханні. А вось нядаўна яна пагневалася на мяне. Я вяртаўся са школы дамоў, і ішла разам са мной адна дзяўчына з нашай школы. Убачыла нас Марыся і перастала са мной гаварыць. А я ж не хацеў яе пакрыўдзіць. Я і не падумаў, што яна можа пагневацца за тое, што я іду з школьнай сяброўкай. Я хадзіў нават у інтэрнат, дзе Марыся жыве, хацеў перапрасіць, а яна не выйшла. Сэрцайка, што рабіць, я ж яе моцна кахаю?

Мірэк з Бельска

Мірэк, не хвалюйся, не адзін ты пакрыўджаны гэткай беспадстаўнай зайздрасцю. Не менш яна мучыць і саму зайздросніцу. Зайздрасць — неадлучны спадарожнік кахання. Але зайздрасць празмерная, беспадстаўная атручвае каханне. Мы ўжо не раз аб гэтым пісалі. Асабліва ў школе, дзе згуртавана моладзь, нельга цурацца сяброў і сяброўак. Думаю, Марыся зразумее гэта. І калі кахае, напэўна ўсё ўладзіцца, будзе, як даўней. Ну, а ты пераламай сарамлівасць, не шкадуй каханай слоў цёплых, мілых. Гэта яднае закаханых.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: К. быў у час бойкі забіты. Ён пакінуў жонку і двое дзяцей. Дзецям ЗУС прызнаў пенсію. Ці жонка і дзеці могуць патрабаваць кампенсацыі ад забойцаў і якой?

АДКАЗ: Жонка і дзеці незалежна ад таго, што атрымоўваюць ад ЗУС, могуць патрабаваць кампенсацыі, калі будзе даказана віна забойцаў. Калі была карная справа, і яны прыгавораны судом за забойства, то ў цывільнай справе суд абапіраецца на прыгаворы і засудзіць ад забойцаў кампенсацыю. Калі б было даказана, што бойку распачаў бацька, то суд абнізіў бы кампенсацыю адпаведна да віны бацькі, аднак не мог бы поўнасцю адмовіць у засуджэнні кампенсацыі, калі б забойцы былі прыгавораны судом за забойства. Толькі ў выпадку, калі б суд апраўдаў забойцаў, прымаючы, што дзейнічалі яны ў асабістай абароне, нельга было б патрабаваць кампенсацыі.

Жонка і дзеці могуць патрабаваць аднаразовай кампенсацыі за крыўду, а таксама коштаў, звязаных з лячэннем і пахаваннем забітага. Дзеці могуць патрабаваць дадатковай пенсіі, калі пенсія, прызнаная ЗУСам, не запэўнівае ім узроўню жыцця, які мелі пры жыцці бацькі. Жонка магла б патрабаваць пенсіі толькі ў выпадку, калі б была няздольнай да працы і знаходзілася на ўтрыманні мужа.

## Этнаграфічнае акенца



*Кераміка з Сямяціч.* *Фота Віктара Волкава.*




19 лістапада Арлоўскі і Грынкевіч пераправіліся цераз раку Пціч і прыйшлі ў вёску Хвойня Лушчыцкай воласці. Тут жыў адзін з рудабельскіх партызан Васіль Харытонавіч Шыйко. Ён ахвотна прыняў прапанову Арлоўскага арганізаваць і ўзначаліць баявую групу, пазнаёміў яго з пяццю сваімі вернымі таварышамі.

Камандзірам такой групы ў Рудабельскай воласці стаў Ігнат Канавалаў. Быў ён падпольшчыкам пры нямецкай акупацыі гэтай мясцовасці. Баявую загартоўку мелі і кіраўнікі іншых баявых груп: Капаткевіцкай — Ісак Мікітавіч Пакуш, Круковіцкай — Якаў Ілыч Касянчык. Створаныя з дапамогай Арлоўскага групы зрабілі па некалькі вылазак супроць балахоўцаў, рыхтаваліся да больш актыўных баявых дзеянняў. Але ў канцы лістапада воінства Балаховіча было разбіта Чырвонай Арміяй. Многія салдаты Балаховіча пераходзілі на бок Чырвонай Арміі, многія дэзерціравалі. Сам „бацька“ ледзь не трапіў у палон.

Арлоўскі вярнуўся ў Мінск.

— Усе камандзіры баявых груп — надзейныя таварышы, выпрабаваныя работнікі. У іх ёсць вопыт падпольнай і партызанскай барацьбы і ёсць жаданне змагацца з бандамі контррэвалюцыі, — дакладваў ён Іоўлеву.

— Булак-Балаховіч разбіты, але бандытызм не ліквідаваны. Больш таго, пры адступленні частка балахоўцаў рассеялася па лясах, папоўніла дробныя банды. Так што работы вашым падапечным хопіць, — сказаў Іоўлеў. Ён прайшоўся па кабінеце, закурыў. Моўчкі зацягнуўся. Адчувалася, што хоча штосьці сказаць.

— Маім падапечным... А мне? Мне што загадаеце рабіць, таварыш Іоўлеў — у голасе Арлоўскага чулася крыўда.

— Вы і так шмат зрабілі, у такіх небяспечных умовах працавалі, што загадваць вам я, калі падумаць добра, не магу, не маю права. І ўсё ж давядзецца вам зноў адправіцца ў Бабруйскі і Рэчыцкі паветы, узначаліць створаныя там баявыя групы. Цяпер, калі Калчак і Юдзеніч, Дзянікін і Урангель разгромлены, калі замежныя інтэрвенты выгнаны, самы небяспечны вораг Савецкай улады — бандытызм. З ім трэба канчаць рашуча і як мага хутчэй. Так?

— Толькі так. І я ўдзячны Рэўваенсавету за вялікі давер.

У першыя дні снежня Арлоўскі разам з Грынкевічам, Красоўскім і Абакунчыкам адправіўся ў Бабруйскі і Рэчыцкі паветы і адразу ж пачаў дзейнічаць. Некалькі бандаў „зялёных“ было разгромлена. Пра адну з іх Арлоўскі паведамляў: „...Зялёныя“ былі пад кіраўніцтвам мясцовай шляхты, мелі сувязь з бандамі Балаховіча, сярод дэзерціраў, што хаваюцца ў лясах, вялі агітацыю супроць Савецкай улады, гаворачы, што „тут“, маўляў, не будзе Савецкай улады, а будзе ўлада генерала Балаховіча“.

Сувязь з балахоўцамі, якія атабарыліся паблізу дэмаркацыйнай лініі, мелі і іншыя банды. Вось чаму новы, 1921 год Арлоўскі сустракаў за дэмаркацыйнай лініяй — у Клецку: трэба было асабіста праверыць дадзеныя разведкі пра базы балахоўцаў.

Пераапрануўшыся ў сялянскае адзенне, на незайздросным, але дужым коніку 28 снежня Арлоўскі выехаў у Клецк. Спадарожнікам яго быў кантрабандыст, што не раз ужо ездзіў у Клецк па хадавыя тады тавары: соль, запалкі, газу, іголкі. Даехалі шчасліва і нават весела: усю дарогу гаварлівы спекулянт навучаў майстэрству кантрабанды прасцецкага з выгляду хлопца, які вельмі спадабаўся яму. У вопытнага спекулянта былі знаёмыя ў Клецку, у якіх ён спыняўся на пастой. Ведаў ён і каменданта горада, хваліўся:

— За ўзятку ў дзве-тры тысячы марак ён мне „зялёную“ дарогу дае. Я магу правезці што хочаш.

Аднак Ісак (так звалі кантрабандыста) моцна перабольшваў сілу сваіх знаёмстваў. Не паспелі яны прыехаць у Клецк, распрэгчы коней у двары знаёмага, як у дом убег задыханы гаспадар.

— Каменданцкая каманда правярае суседнія двары, шукае нейкіх падазроных, — паведаміў ён непрыемную навіну.

Арлоўскаму з Ісакам давялося спяшацца на гарадскі кірмаш. Люд там быў самы розны. Апранутыя ў кажухі, у паношаныя рускія, французскія, англійскія і польскія шынялі, ганчары і краўцы, шаўцы і калёснікі наперабой расхвальвалі свае няхітрыя вырабы, аднак безвынікова: згалелыя за доўгія гады ваеннага ліхалецця сяляне бераглі кожную марку, уважліва прыглядаліся да тавараў, доўга, да хрыпаты, таргаваліся, а куплялі мала. Не было грошай і ў кішэнях розных дэзерціраў, былых балахоўцаў. Якія гэта пакупнікі? Іх болей цікавілі размовы, чым тавары. А размоў было ўсякіх, самых нечаканых для Арлоўскага! На ўсе лады, напрыклад, абмяркоўвалася „наві-

## Індывідуальны падыход

Паплаўскі парушыў працоўную дысцыпліну, ды яшчэ нагрубіў наведвальніку. А ў нас якраз заканчваўся месячнік культурнага абслугоўвання. Не чакаючы абедзеннага перапынку, рашылі пакараць Паплаўскага, каб іншым непанадна было.

— Ударым яго па кішэні, — прапанаваў кадравік Арлоў. — Паменшым яму зарплату.

— Зарплату чапаць нельга, — запярэчыў юрысконсульт Левака. — Парушым закон...

— Урэжам прэмію, — сказаў рахункавод Тупікаў. — працэнтаў на дзесяць.

— Што ж гэта атрымліваецца? — захвалявалася прыбіральшчыца Мар'я. — Вінаваты гэты хуліган, а гараваць будуць жонка і дзеці. Колькі ў цябе дзяцей, Паплаўскі?

Паплаўскі задумаўся.

— Пяць...

Крыўдзіць дзяцей было нельга.

— Вымову яму аб'явім, — рэзка кінуў вахцёр Бурак.

Твар Паплаўскага выцягнуўся.

— Ужо аб'яўлялі...

— Тады з апошнім папярэджаннем.

— Зразумейце мяне правільна, — падняўся Тупікаў. — Паплаўскага трэба пакараць не так, як усіх нас звычайна караюць, а каб ён усё жыццё памятаў...

Пасля доўгіх размоў было прынята аднагалоснае рашэнне, якое запісалі ў пратакол: „За неаднаразовае парушэнне працоўнай дысцыпліны і грубасць асабіста Паплаўскаму месячнік культурнага абслугоўвання наведвальнікаў паўтарыць".

Пасля гэтага мы стараліся не пазіраць на маўклівага засмучанага Паплаўскага: нам было сорамна за сваю жорсткасць.

**М. Застольскі**



### МІКОЛКА

— Чаму ў цябе такія кепскія адзнакі? — пытаецца маці ў Міколкі.

— Не знаю, што табе адказаць, — падумаўшы сказаў Міколка. — Ты ж сама ведаеш, што іх стаўлю не я.

# НІЎКА




— *Мой сябра набыў абоі ў выглядзе бібліятэкі. Я яго, здаецца, пераіграў...*




### КАМУ ЛЕПШ

Едуць брычкай маці, сын і нявестка. На выбоінах брычку так трасе, што маці з нявесткаю аж зубамі ляскаюць. Сын і кажа:

— Перасядзьце мама, у задок, хай вас толькі два калясы трасуць. А ты, жонка, сядай пасярodку, хай цябе трасуць усе чатыры.

### ЗАЯЦ ПАДВЁЎ

— Як прайшло паляванне? — пытаюцца ў дацэнта Скока.

— Упецярых аднаго зайца падстрэлілі, — адказвае Цімох Скок.

— І як вы яго дзялілі?

— А мы яго не знайшлі.

### СПОСАБ

П'яны Кастусь ноччу вяртаецца дамоў. Ён адчыніў дзверы і мармыча:

— Прашу, дарагая, пачынай крычаць на мяне, а то ў гэтай цемры я не магу знайсці ложка!




### МОЦНЫ ГОЛАС

Салістам
У шпакоўскім хоры
Стаў Верабей,
Пяе ўжо год каторы.
Бо Вераб'ём
Прадстаўлена была
Рэкамендацыя
За подпісам Арла.

*Ул. Фацееў*



— *На памяць аб Італіі...*

...Муж і жонка былі мовазнаўцамі, аднак агульнай мовы не знаходзілі.

...Калі ён звёў канцы з канцамі, атрымалася замыканне.

### КАТЭГАРЫЧНАЕ ПРЫЗНАННЕ

*Ад жонкі сваёй мілай*
*Пачуў аднойчы я:*
*— Якаясьці бяскрылая*
*Паэзія твая.*

*Калі ты песняй звонкаю*
*Не ўславіш мой анфас,*
*Не застануся жонкаю*
*Тваёй я і на час!*

*На месца ўсё пастаўлена...*
*Дзівак я, божа мой!*
*Каханая, ты ўслаўлена*
*Сягоння ж будзеш мной!*

*О, колькі песень згублена!*
*А па чыёй віне?*
*Сказаць мне гэта, любая,*
*Ты не магла раней?*

**Уладзімір Скарынкін**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Да вядомага піяніста перад канцэртам падыходзіць любіцель музыкі, які не змог дастаць білета.

— Я так люблю вашу іграу, маэстра, — кажа ён. — Не маглі б вы правесці мяне на канцэрт?

— У маім распараджэнні адно месца, мсье, — адказвае музыкант, — і я вам з ахвотай яго ўступлю.

— Дзякую вам, маэстра. І дзе ж яно?

— За раялем.

* * *

Малады аўтар напісаў кінасцэнарый і прынёс яго аднаму з галівудскіх кінабосаў. Чытаючы свой твор, аўтар ад хвалявання страшна заікаўся.

— О'кэй, я бяру сцэнарый, — сказаў бос.

— Не разумею, — сказаў рэжысёр. — Што вам у ім спадабалася?

— Дык гэта ж геніяльна: усе да аднаго персанажы заікаюцца!..

### ДУРАНЬ

Муж і жонка спрачаюцца паміж сабой.

— Такім чынам, — крычыць ён, — ты прымаеш мяне за дурня?

— Не, — адказала жонка. — Але магу і памыліцца.




**Беражыце жывёлін! Не застаўляйце іх жыць у людскіх умовах.**



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ірэны Несцярук з Дубіч Царкоўных, Яна Врублеўскага з Бельска і дзяўчат з Парцава змяшчаем песню*

## WYSPA DZIECI

**słowa: Marek Dutkiewicz**
**muzyka: Janusz Kruk**
**śpiewa: Zespół Dwa plus Jeden**

Jest wyspa za Morzem Dziewięciu Miesięcy
gdzie dzieci rosną na drzewach,
a słońce rozdaje im złote szturchańce
i mogą jak jabłka dojrzewać.

A kiedy wichura nadciągnie od morza
i gałąź o gałąź zastuka,
zaczyna się wielkie jesienne spadanie
za brzdącem brzdąc leci jak grucha.

bęc, bęc — już jeden leci
pac, pac, pac — już drugi spadł
bęc, bęc — sypią się dzieci
pac, pac, pac — tłusty, różowy grad.

Pod wieczór przychodzą na wyspę dorośli
i chodzą i gapią się wkoło,
i zawsze mijają te dzieci co płaczą
a biorą ze sobą wesołe.



*Літаратар-крытык.*

### СТАЛАЯ

Дзве сяброўкі размаўляюць між сабой.

— Як добра, што ты запрасіла мяне на свой дзень нараджэння. Спадзяюся, што на стале будуць і свечкі?

— Ну, а як жа без іх?

— А колькі?

— Дваццаць... як заўсёды.




### „ШЭРЛАК ХОЛМС ЗАНЯТЫ"

Сярод вялікай дзелавой карэспандэнцыі, якая штодзённа паступае ў адрас адной з лонданскіх будаўнічых кампаній, часта сустракаюцца пісьмы, што ніякіх адносін да будаўнічых спраў не маюць.

„Дарагі сэр! Тэрмінова маю патрэбу ў вашай дапамозе і вашым асабістым удзеле ў расследаванні прычын смерці маёй цёткі, — просіць жыхар амерыканскага штата Віскансін. — Яе яўна атруцілі, а паліцыя сцвярджае, што гэта толькі няшчасны выпадак".

Аўтары іншых пісьмаў прапануюць, напрыклад, адначыць расследаванне акалічнасцей спроб замаху на жыццё прэзідэнта Форда або акалічнасцей „уотэргейцкай справы". Адрасату гарантуюць высокі ганарар, аплату праезду і ўсіх расходаў.

Трэба сказаць, што ў клерка, які сартуе пошту, ні змест такіх просьбаў, ні адрас: „Лондан, Бейкер-стрыт дом 221/Б, Шэрлаку Холмсу" ніякага здзіўлення не выклікаюць. Справа ў тым, што Конан-Дойл, аўтар шматлікіх апавяданняў, якія стварылі шырокую славу Шэрлаку Холмсу, упамінае імення гэту вуліцу і імення гэты дом, дзе нібыта жыў усёведны і ўсевідушчы дэтэктыў. Цяпер жа тут знаходзіцца будаўнічая кампанія.

Толькі за некалькі мінулых гадоў на імя Шэрлака Холмса паступіла каля 15 тысяч пісьмаў з многіх краін свету. І кампаніі прыйшлося ўстанавіць пасаду „асабістага сакратара" вядомага дэтэктыва, усклаўшы на яго абавязкі даваць адказы на пісьмы.

— Звычайна я адказваю, што Шэрлак Холмс вельмі заняты, што ён расследуе чарговае і заблытанае злачынства і таму, зразумела, не можа напісаць адказ асабіста. Аматарам жа фота і аўтографаў прыходзіцца адказваць, што праслаўлены сышчык, у сувязі з акалічнасцямі, звязанымі з асаблівасцямі яго работы, вымушаны ўстрымацца ад публікацыі сваіх фатаграфій.